Тэма нумару: Быкаў. Памятаем

НАШ Магілёў

# Наш Магілёў

Грамадска-палітычная незалежная газета горада № 43(5), чэрвень 2010 года

# Незадоўга да смерці Васіль Быкаў ледзьве не патрапіў у аўтааварыю

*Еўрапейскае радыё для Беларусі*

**Родная сястра пісьменніка Валянціна Уладзіміраўна распавяла пра славутага брата ў ягоны Дзень народзінаў.**

**19 чэрвеня аднаму з самых славутых беларускіх пісьменнікаў Васілю Быкаву споўнілася б 86 гадоў. На ягонай магіле ў Мінску адбылася жалобная цырымонія. А ў вёсцы Ваўчо пад Вушачамі жыве родная сястра Быкава Валянціна Уладзіміраўна. Мы наведалі разам з ёй іх родную з Васілём хату ў Бычках, Валянціна Уладзіміраўна ўспамінала іх з Васілём маленства, а таксама апошнія гады яго жыцця.**

Валянціна Быкава: "Мы з ім біліся часта. Ну вядома, дзеці - дурэць захочуць. А нас даглядала баба - была старая, сляпая, маміна свякроў, першага мужыка. Мама пойдзе на работу з бацькам - а яна нас глядзела. Сляпая, а нам з Васілём хочацца дурэць. Яна ляжыць на ложку, а мы возьмем венік, падбяжым, то Васіль, то я - і венікам па ёй: шась, шась!.. А яна стане сварыцца, дык мы ўцякаем хавацца пад ложак. А яна тады кійком б'е па ложку..."

На вокнах адбудаванай хаты-музея Васіля Быкава - фіранкі з... газеты! Высветлілася, што іх папрасілі выразаць менавіта Валянціну Уладзіміраўну - бо такія самыя яна выразала тут 70 гадоў таму...

Валянціна Быкава: "Гэта я рабіла іх пасля вайны - дзе найду якую паперу, газеціну - дык навучылася выразаць такія. Купляць жа ж не было нічога такога... А мне Кірпіч (дырэктар музею - Еўр.) кажа: "Дык ты зрабі такія самыя цяпер, як пасля вайны было" Ну я гэтак і зрабіла - з "Народнай волі". Я ж яе выпісваю, а яна вялікая! Тут яшчэ нехта быў прыехаў і кажа: "Паглядзіце - занавескі з "Народнай волі"!

Штораз, калі Васіль Быкаў прыязджаў на малую радзіму, гасціў у Валянцінінай хаце, у вёсцы Ваўчо. Праўда, згадвае Валянціна Уладзіміраўна, некаторыя суседзі яго не дужа любілі, называлі "бэнээфаўцам", казалі, што ён "прадаўся за зялёненькія". Асабліва шчыраваў адзін сусед, які ўжо памёр.

Валянціна Быкава: "А яшчэ гэты быў жывы сусед. І адзін год я тут у агародчыку летам нешта рабіла, якраз быў чэрвень, дзень народзінаў Васіля. Якраз прыйшла паштальёнка - і пошту кладзе. А я кажу: "А ці ёсць там пра брата пра майго што ў раёнцы?" А ён якраз на двары і пачуў: "Глядзі ты, будуць успамінаць яго!.. Ён жа толькі ўцёк адгэтуль! Яму ж Беларусь гэтая не падабаецца, яму ж лепей за граніцай, яму ж там зялёненькія даюць, ён жа там піша для іх толькі!... А я тады не вытрымала, паднялася - і не сваруся, але кажу: "А каб ты столькі пенсіі атрымліваў, колькі ён атрымлівае тых зялёненькіх!" Дык сціх і змыўся!"

Калі Быкаў прыязджаў, сусед пільна ўглядаўся ў ненавіснага "бэнээфаўца". Калі Быкава падвозілі сюды сябры, то суседу падавалася, што Быкаў мяняе машыны як пальчаткі.

Валянціна Быкава: "Так не любілі Васіля... Як прыедзе, дыу той усё казаў: "Ужо на новай машыне, ужо яшчэ мусіць купіў - сколькі ў яго тых машын?.." Усё выглядаў. А сам усё жыццё не працаваў. Спачатку, яшчэ пасля вайны быў трактарыстам. А так - стаў брыгадзірам, дык усё жыццё брыгадзірам. А як з людзьмі... Цяпер, як памёр, дык яго ўсе праклялі!.. Дзе хто што возьме - ці травіну якую, ці бурак дзе які прынясе - той усё выглядае, і адразу бяжыць даносісць..."

Сястра народнага пісьменніка згадвае, што Васіль усё жыццё кіраваў аўтамабілем - машыны былі ягоным вялікім захапленнем: спачатку меў "Жыгулі", пасля "Волгу". Пад старасць перастаў сядаць за стырно. Але калі прыязджаў на малую радзіму, заўжды сядаў тут за стырно сам - хацелася асабіста ехаць па роднай зямлі".

Валяціна Быкава: "Адзін раз, помню, ехалі мы пры Вушачы. І Васіль, ну вядома ж ужо не такі зрок быў і слабы здароўем... На скрыжаванні стаяла такая загародка - дарожнікі нешта рабілі і паставілі. А Васіль, калі сюды прыязджаў, сам за руль адразу - ахвота яму было па сваёй Радзіме самому за рулём быць, дык ужо сам за руль ехаў тутака. І прама на гэтую, на перагародку - ледзьве не ўскочыў!.. Але хуценька Сяргей (сын Васіля) схапіў руль і павярнуў. Васіль сказаў: "Але ж, бачыш ты, старасьць, ужо не бачу ўсё добра..."



Васіль Быкаў, Народны пісьменнік Беларусі, фотаздымкі з сайта euroradio.fm



Родная сястра пісьменніка Валянціна Уладзіміраўна

РЭДАКЦЫЙНАЯ



ПОШТА

**Сутыкнуліся з праблемай і не ведаеце да каго звярнуцца?**
**Пішыце нам - мы паспрабуем дапамагчы Вам!**
Магілёў, вул. Ленінская, 29, оф. 315,
e-mail: mahilou@tut.by

# Замест фэстывалю "Магутны Божа" - некалькі канцэртаў

*Радыё Свабода*

**29 чэрвеня ў Магілёве пачаліся канцэрты ў рамках міжнароднага фэстывалю духоўнай музыкі "Магутны Божа". Паўнавартасны яго праграмы аднак з-за фінансавых праблемаў сёлета, як і летась, ня будзе. Некалі надзвычай папулярны фэст, які зьбіраў музыкаў з паловы сьвету, магілёўскія ўлады замянілі некалькімі канцэртамі і выставамі ў рамках культурніцкага праекту "Духоўная скарбніца".**

На нешматлікіх афішах назва фэстывалю ёсьць, але ўгледзець яе цяжка. У вочы наперш кідаюцца словы "Духоўная скарбніца".

"Як такога фэстывалю "Магутны Божа"сёлета няма. Ёсьць толькі культурна-выставачны праект "Духоўная скарбніца", які праходзіць у межах "Магутнага Божы". Паўнавартасны фэстываль плянуецца ў 2012 годзе. Крызыс - такое слова. Крызыс. Фэстываль нават духоўнай музыкі патрабуе значны фінансавых затрат. Калі праводзіць фэстываль - дык ужо праводзіць", - зазначыла супрацоўніца аддзелу культуры магілёўскага гарвыканкаму.

Летась паўнавартаснай фэстывальнай праграмы таксама не было. Чыноўнікі абяцалі, што ў 2010 годзе фэстываль адбудзецца ў шырэйшым фармаце. Абмежаваньні называліся творчым перапынкам, каб вывесьці фэст на больш высокі творчы ўзровень.

Вестка пра тое, што ў Магілёве фэстываль "Магутны Божа" зьвялі да культурніцкага праекту народную артыстку Беларусі Зінаіду Бандарэнку, яго заснавальніцу і колішнюю арганізатарку, засмуціла, аднак не зьдзівіла. Апошні раз яна была на фэсьце ў 2004 годзе. Занепад фэстывалю пачаўся са зьнікненьня беларускай мовы, цьвердзіць спадарыня Бандарэнка:

"Гэты фэстываль меў яскрава выражаныя нацыянальныя рысы. Найперш беларуская мова, потым рэпэртуар - творы гучалі беларускамоўныя. Бралі ўдзел у нашым фэстывалі людзі розных хрысьціянскіх канфэсіяў, розных моваў, розных поглядаў. Кожны такі фэстываль быў сапраўдным адкрыцьцём талентаў. Адно тое, што на ўсіх нашых фэстывалях гучаў гімн "Магутны Божа" гаворыць пра многае. Вось гэтым гімнам мы адкрывалі й закрывалі "Магутны Божа".

Беларуская мова найперш зьнікла з афішаў. Іх пачалі друкаваць па-расейску. Тлумачылася гэта тым, што замежныя ўдзельнікі беларускай мовы не разумеюць. Паволі меншала колькасьць удзельнікаў з краінаў Заходняй Эўропы.

Што да сёлетніх афішаў, то яны, як і ў папярэднія гады, расейскамоўныя. Беларуская мова на іх засталася дзякуючы словам "Магутны Божа" і "Духоўная скарбніца".

Гэты фэстываль меў яскрава выражаныя нацыянальныя рысы.

Сёньня праграму фэстывалю распачаў камэрны хор і аркестар магілёўскай капэлы. Імі дырыжыраваў сакратар амбасады Вэнэсуэлы ў Беларусі сыньёр Эстрада Мартынэс.

Сярод арганізатараў сёлетніх канцэртаў "Магутнага Божа" няма рыма-каталіцкага касьцёлу, высілкамі якога у 1993 годзе фэстываль упершыню запрасіў у Магілёў музыкаў. Цяпер на афішах арганізатарамі выступаюць выканаўчая ўлада й абласная філярмонія.

Назва фэстывалю паходзіць ад аднайменнага музычнага твору паэткі Натальлі Арсеньневай і кампазытара Мікалая Равенскага. Паводле палажэньня, усе ўдзельнікі фэстывалю павінны ведаць гімн "Магутны Божа" на мове арыгіналу. Сёлета і летась гімна не выконвалі.

Сярод заснавальнікаў фэсту, акрамя Зінаіды Бандарэнкі, былі: народны артыст Беларусі і СССР, ляўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафэсар Беларускай акадэміі музыкі Віктар Роўда, дацэнт Беларускай акадэміі музыкі Ганна Каржанеўская, заслужаны артыст Беларусі, дацэнт акадэміі музыкі Віктар Скарабагатаў. У розныя гады яго падтрымлівалі фонд Сораса, Беларускі народны Фронт "Адраджэньне" ды грамадзкі камітэт "Дзеці Чарнобылю".




# Диалог не состоялся, или как "начальнички" 37-й год с умилением вспоминают...

*Андрей Волков*

**Во время очередной проверки бытовых условий членов профсоюза РЭП на стройобъекте МГКУП "Инвест-систем", технический инспектор профсоюза Алексей Павловский и Андрей Двигун, председатель городской организации случайно встретили и.о. главного инженера предприятия, который пригласил их "пройти и поговорить" с дирекцией....**

Профсоюз РЭП уже много добился для своих членов, рабочих филиала МГКУП "Инвест-систем". Вагончики практически соответствуют санитарным нормам, проведено электричество, появились умывальники, подвели воду для душевых, начали выплачивать нормальную заработную плату. Всё это профсоюз заставил сделать дирекцию предприятия. Однако, дирекции удивительным образом отнеслась к улучшению условий труда своих сотрудников. Ещё бы: одно дело работать на 20-ти градусном морозе без спецодежды, и совсем другое дело - заседать в комфортабельных кабинетах с евроремонтом....

Диалог, как водится, начался с знакомства. На просьбу представиться, Алексей Павловский предъявил удостоверение технического инспектора профсоюза. Генеральный директор Литвинчук долго не думаю, внаглую положил удостоверение себе в стол и вернул только после угрозы вызвать милицию.

- Вёл себя по хамски, как сатрап, - рассказывает Андрей Двигун, - Сначала он пытался заставить и.о. главного инженера откcерить удостоверение Павловского, но я сказал ему: "Хлопец, не дёргайся, если твой руководитель нарушает закон, пусть он сам потом бегает по прокуратурам и оправдывается, зачем тебе это?". Пришлось подняться Литвинчуку из-за стола и самому идти к ксероксу...

Павловский в это время пытался найти ещё свидетелей правонарушения Литвинчука. Случайно на улице встретился ему Попенюк, заместитель директора предприятия по быту и кадрам. Тот самый, который "забыл" рабочим условия для труда создать.

Начальные условия для диалога были созданы: все заинтересованные стороны встретились в одной точке... Однако, единственное что смогли внятно вымолвить директора, это пожелание, чтобы ноги профсоюзников у них не было. Понять начальничков можно: с подачи профсоюза их оштрафовали на немаленькие суммы... В итоге, договорились, что, с одной профсоюз как работал так и продолжит работать, а Литвинчук на нервах позвонил своему "куратору" (оказывается и такие есть... где ж были эти "кураторы" когда рабочие на стройке замерзали без зарплаты?) и пообещал что профсоюзом займётся милиция и КГБ.

- Мне Попенюк сказал, что такой профсоюз им не нужен, что у них всё нормально, - рассказывает Алексей Павловский, - и это когда на объекте у них вопиющие нарушения, я ещё ни одной такой стройки не видел. Особенно гадко, что этот Попенюк - бывший председатель областного суда, бывший ректор БИПа, не ожидал такого услышать, от настолько титулованного члеовека...

Завершилась встреча нецензурной бранью со стороны Попенюка, который в порыве отчаяния, с покрасневшим лицом пытался послать профсоюзную делегацию на три буквы. Однако, профактивисты удалились достойно и обещали вернуться.

Стоит ответить, что после того, как профсоюз заставил дирекция филиала "Инвест-систем" выполнять законные нормы, началась соответственная идеологическая работа с рабочими-строителями.

- К нам пришли и говорили: "Что вы всё пишете, жалуетесь? 37-го года на Вас нет!", - рассказывают рабочие, - и это нам говорил человек ответственный за идеологию, который в судах работал...

## Порядок на филиале МГКУП "Инвест-систем" от Попенюка и Литвинчука:

1. Рабочие работают на 20-ти градусном морозе без спецодежды.
2. Не выплачиваются надбавки за вредные условия труда.
3. Не обеспечены бытовые условия: вода, свет, отапливаемые бытовки (в зимнее время).
4. Рабочих запугивают, независимый профсоюз поливают грязью.

Порядок от профсоюза РЭП. Мы добились от "начальничков":

1. Обеспечены бытовые условия
2. Виновные (дирекция, "попенюки" и "литвинчуки") наказаны штрафами.
3. Рабочим будет выплачиваться достойная заработная плата (тем, кто не побоится и продолжит платить взносы в профсоюз).
4. Строительством объектов должны руководить компетентные люди, которые уважают своих рабочих. Мы будем добиваться увольнения нынешнего руководства.

# Кіргістан.
# Няўстойлівасць азіяцкай дэмакратыі

*Ігар Барысаў*

**Адной з перадумоў гэтак званай каляровай "цюльпанавай" рэвалюцыі, было жаданне Аскара Акаева балатавацца ў прэзідэнты ў чацвёрты раз.**

Чарговая рэвалюцыя ў Кіргістане адкінула бедную і без таго краіну назад у сацыяльна-эканамічным і палітычным плане. Зрынутая ўлада паказала, што аказалася не ў стане вывесці краіну з беднасці і вырашаць усе ўзнікшыя пытанні дэмакратычным шляхам. Новы часовы ўрад паказаў сваю слабасць у кантролі над краінай і звярнуўся па дапамогу да Расіі.

## Прычыны "Цюльпанавай" рэвалюцыі

27 кастрычніка 1990 года быў абраны першым прэзідэнтам Кіргізская ССР Аскар Акаеў. І на працягу амаль 15 год да сакавіка 2005 года ён быў прэзідэнтам Кіргістана.

Адной з перадумоў гэтак званай каляровай "цюльпанавай" рэвалюцыі, было жаданне Аскара Акаева балатавацца ў прэзідэнты ў чацвёрты раз. Апазіцыя выступала супраць гэтага. Пасля парламенцкіх выбараў, якія праходзілі ў два туры ў лютым і сакавіку 2005 года пачаліся акцыі пратэсту апазіцыі, бо паводле вынікаў галасавання да ўлады прыходзіла большасць стаўленнікаў Аскара Акаева. Масла ў агонь падлівалі міжнародныя арганізацыі і НДА, якія займаліся незалежным назіраннем за ходам выбараў і заяўлялі аб тым, што яны прайшлі са шматлікімі парушэннямі і назваць іх свабоднымі і дэмакратычнымі не атрымліваецца.У выніку акцый апазіцыі (захоп апазіцыяй будынкаў адміністрацый ў розных гарадах, перакрыцця мітынгоўцамі стратэгічнай дарогі Бішкек-Ош, шматтысячных мітынгаў) да ўлады прыйшла апазіцыя і часова выконваць функцыі прэзідэнта да дня выбараў быў прызначаны лідар Народнага руху Кіргістану Курманбек Бакіеў.

Другой прычнай, якая паўплывала на вынік змены ўлады было традыцыйнае супрацьстаянне кланаў Поўначы і Поўдня. Аскар Акаеў належыў да "паўночных", Курманбек Бакіеў да "паўднёвых". З-за кланавасці ў палітыку былі ўключаны родныя, сваякі і блізкія сябры Аскара Акаева. Менавіта з Поўдня рэвалюцыя "цюльпанаў" пачала набіраць свой абарот.

Трэцяй прычынай была беднасць насельніцтва. Каля 2/3 жыхароў Кіргістана пражывала за рысай беднасці і былі зацікаўлены ў зменах у палітычным і сацыяльна-эканамічным плане.

Чацвёртай прычынай можна назваць знешнюю прычыну - гэта незацікаўленасць ЗША ў прарасійскім рэжыме Акаева. Як вядома Аскар Акаеў адмовіўся размяшчаць на амерыканскай базе "Манас" самалёты сістэмы "Авакс" і не даў права амерыканцам патруляваць кіргіза-кітайскую мяжу.

Пятай, яшчэ адной знешняй прычынай, можна назваць наяўнасць у краіне шэрагу празахадных няўрадавых арганізацый, якія фінансаваліся з-за мяжы і былі зацікаўлены ва ўсталяванні дэмакратычнага рэжыму. Яны таксама адыгралі важную ролю ў рэвалюцыі "цюльпанаў".

## Прычыны чарговага пераварота

Калі мінулую рэвалюцыю увайшла ў гістарычную серыю "каляровых" рэвалюцый, як цюльпанавая рэвалюцыя (сакавік 2005 года), то чарговая рэвалюцыя ў Кіргістане, якая адбылася ў пачатку сакавіка 2010 года атрымала назоў - "дзяржаўны пераварот".

Сярод галоўных прычын, якімі быў выкліканы чарговы дзяржаўны пераварот, быў крайне нізкі ўзровень жыцця і невырашэнне эканамічных і сацыяльных праблем ўладамі, зацягнуўшаяся і стаўшая традыцыйная барацьба паміж кланамі поўначы і поўдня за кантроль над краінай, раскол кіруючай эліты і скатванне краіны ў перыяд прэзідэнцтва Курманбека Бакіева да аўтарытарызму. У якасці падмацавання апошняга дастаткова прывесці рэйтынг незалежнай амерыканскай арганізацыіі Фрыдам Хаус, якая займаецца маніторынгам кантроля палітычных правоў і грамадзянскіх свабод ва ўсім свеце. Паводле яе рэйтынгу краіна за апошні год зноўку пачала губляць дэмакратычныя каштоўнасці і скатвацца да дыктатуры.

## Антынародны рэжым Бакіева

Незадаволенасць народа прыйшоўшым да ўлады ў выніку рэвалюцыі "цюльпанаў" паўднёвага клана Курманбека Бакіева была абумоўлена тым, што ў краіне пасля так званай рэвалюцыі "цюльпанаў" народ жыць лепей не стаў. Пасля прыходу да ўлады апазіцыі краіна апынулася ў стадыі перадзела ўласнасці, львіная частка якой дагэтуль належыла клану зрынутага прэзідэнта Аскара Акаева.

Паступова Курманбек Бакіеў паказаў сваю схільнасць да кампумпаванасці і аўтарытарызму, яшчэ большага, чым быў пры яго папярэдніку Аскару Акаеву. Асноўны паток дзяржаўных сродкаў у краіне пачаў кантраляваць яго сын, 32-х гадовы Максім Бакіеў. Ён з кастрычніка 2009 года займаў пасаду кіраўніка дзяржаўнай агенцыі па развіцці, івестыцыях і інавацыях. Ён быў таксама кіраўнікам спецыяльнага фонду, які складаўся з расійскіх крэдытаў, амерыканскай фінансавай дапамогі і іншых замежных інвестыцый, якія бы па ўмовах іх прадастаўлення павінны былі быць укладзены ў прамысловасць.

Максім Бакіеў быў арганізатарам захопу тых прыватных прадпрыемстваў, якія яму падабаліся. У краіне яго называлі "злым геніем прыватызацыі па-кіргізску".

Паводле яго, рашэнні прымаліся там, дзе партнёр быў гатовы выдаткаваць сродкі. Такім стаў амбіцыёзны праект па будаўніцтву Камбарацінской ГЭС, будаўніцтвам якой у Бішкеку разлічвалі вырашыць усе матэрыяльныя праблемы краіны. Першапачаткова абмежаваны ўдзел у будаўніцтве прымалі іранцы і казахі. У сувязі з тым, што праект быў маштабны вырашына было звярнуцца па інвестыцыі да Масквы, якая выдаткавала Бішкеку бязвыплатна сродкі ў памеры 150 млн. даляраў і дала на льготных умовах першую частку крэдыта ў памеры 300 млн. даляраў. У пачатку 2010 года Масква адмовілася інвеставаць 1,7 млрд даляраў у гэтую ж будоўлю. Гэта было выклікана тым, што выдаткаваныя раней сродкі аказаліся ў Фондзе развіцця Кіргістану, якім кіраваў Максім Бакіеў і перашкодамі з перадачай 51 працэнта акцый гэтага прадпрыемства Маскве. Адгаворкі, кшталту "сродкі ўкладзены ў фонд каб іх не з'ела інфляцыя" не падзейнічалі на афіцыйную Маскву. Не было знойдзена паразуменне па гэтым пытанні і з Кітаем.

**працяг чытайце у наступным нумары**



фота svaboda.org




### Агульныя звесткі

**Кіргістан** (саманазоў Кыргыстан) як краіна ўзнікла пасля распаду Савецкага Саюза, але аснова яе сучаснай дзяржаўнасці была закладзена за часамі Савецкай імперыі. Дагэтуль землі Кіргістана былі заваяваны манголамі, ўваходзілі ў склад Какандскага ханства, потым Расійскай імперыі. Як самастойны суб'ект сусветнай палітыкі Кіргістан ўзнік пасля абвяшчэння сваёй незалежнасці 31 жніўня 1991 года. У 1993 годдзе была прынята ўласная Канстытуцыя.

**Насельніцтва** сучаснага Кіргістана складаецца ў асноўным з трох народаў: кіргізаў (70,9%), узбекаў (14,3%) і рускіх (7,8%) і складае агулам 5,482 тыс. чалавек. Астатнія нацыянальнасці трапляюць у графу іншыя і займаюць астатнія 7%.

**Тэрыторыя** Кіргістані мае плошчу 198,5 тыс. кв. км. Дзяржаўныя мовы - кіргізская і руская. Сталіца - Бішкек. 85% тэрыторыі краіны займаюць горы.

**Сярэдні заробак** у краіне складае 150 даляраў.

**Валавы ўнутраны прадукт** з пералікам на душу насельніцтва - 1000 даляраў. Прамысловасць дае ўсяго 15% ВУП, з якіх 40% складае дабыча золата.

Працяглы час кантроль над буйнымі прадпрыемствамі краіны належыў клану былога прэзідэнта Аскара Акаева, да чарговай дзяржаўнага пераварота- клану Курманбека Бакіева.

**За вуліцу імя Васіля Быкава у Мінску сабрана 95246 подпісаў**

**За вуліцу імя Васіля Быкава ў Гродна сабрана 7503 подпісаў**

# Увага!

## Правакацыя супраць кампаніі "Гавары праўду"! ў Магілёве

**У нядзелю 20 чэрвеня у Магілёве невядомыя пад лагатыпам кампаніі "Гавары праўду" збіралі подпісы за аб'яднанне Беларусі і Расіі.**

Збор подпісаў ладзілі каля галоўнага корпуса Беларуска-Расійскага універсітэта, дзе праходзіла цэнтралізаванае тэсціраванне. У зборшчыкаў подпісаў былі бланкі з лагатыпамі кампаніі "Гавары праўду" Акцыю, інтэрв'ю з падпісантамі здымалі на камеру супрацоўнікі нібыта сталічнага тэлебачання.

У гэты ж самы час збор подпісаў на бланках з лагатыпам "Гавары праўду" праходзіў каля касцёла Св. Станіслава. Гэтым разам зборшчыкі подпісаў збіралі іх за вяртанне незаконна канфіскаванай тэхнікі.

Не "выдуманыя", а сапраўдныя лідэры і актывісты кампаніі адназначна заяўляюць: насамрэч збора подпісаў з вышэйэузгаданымі мэтамі не праводзілася, зборшчыкі подпісаў невядомыя і ўсё гэта з'яўляецца правакацыяй.

-- У нядзелю мне патэлефанавалі знаёмыя і расказалі пра тое. Акцыі праходзілі цягам гадзіны, але гэта былі не нашы людзі, -- гаворыць лідэр "Гавары праўду" ў Магілёве С.Лапуцін.

-- Я лічу, -- працягвае Сяргей, -- што рыхтуецца рэпартаж з мэтай дэскрэдытаваць кампанію. Відавочна, што яе актыўнасць пачала пужаць уладу, вось і вырашана ўжыць адміністрацыйны рэсурс.

# У Магілёве прэзентавалі кнігу "100 абліччаў беспрацоўных"

**17 чэрвеня, актывісты кампаніі "Гавары праўду"! прэзентавалі кнігу "100 абліччаў беспрацоўных". У сустрэчы прынялі ўдзел прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці Магілёва, а таксама звычайныя грамадзяне горада, пераважна моладзь.**




**На фота: Кірыл Грыхін, Ігар Барысыў і Алесь Паплыка**

Як адзначыў актывіст Ігар Барысаў у кнізе прадстаўлена 12 магілёўцаў, якія распавялі пра свой лёс і прычыны, з-за якіх людзі засталіся, альбо не могуць уладкавацца на працу.

"Некаторых з іх, - гаворыць Ігар, - мы бачым сярод нас - яны з'яўляюцца грамадскімі актывістамі. Мы часта бачымся з імі, але не заўсёды цікавімся тым, ці знайшлі яны зараз працу, ці ўсё добра ў іх у жыцці. Гэтыя 100 абліччаў беспрацоўных - гэта зрэз нашага грамадства, зрэз прычын і абставінаў, з-за якіх людзі не могуць знайсці нармальную працу і відавочна, што такіх людзей у краіне на некалькі парадкаў больш, а іх праблема, асабіста праблема "нелаяльных" людзей проста невырашальная".

У сустрэчы прыняў удзел і аддзін з беспрацоўных Алесь Паплыка, гісторыя якога знайшла месца на старонках вышэйузгаданай кнігі.

"Я магу сказаць, што з пытаннем нармальнай працы я застрэў на месцы і яно пакуль не вырашаецца на маю карысць, - гаворыць Алесь, - я неаднаразова спрабаваў працаўладкавацца, пачаць свой бізнес, але нічога не пайшло. Зараз я спрабую працаваць у прыватнай фірме, але за некалькі месяцаў працы на ёй я яшчэ так і не атрымаў свой заробак. Гэта праблема для мяне вельмі актуальная".

Нагадаем, што 16 чэрвеня актывісты кампаніі "Гавары праўду"! перадалі кнігі "100 абліччаў беспрацоўных" кіраўніцтву праўладных грамадскіх арганізацый БРСМ і Белай Русі, а таксама Магілёўскаму цэнтру занятасці.

# 1000 подпісаў - за будаўніцтва маста

**У Магілёве актывістамі кампаніі "Кажы праўду!" сабрана больш за 1000 подпісаў за будаўніцтва маста для аўтамабіляў і пешаходаў праз чыгуначныя пуці з мікрараёна "Юбілейны" да мікрараёна "Тэхнапрыбор".**

Адзін з ініцыятараў збору подпісаў Алесь Паплыка адзначае, што ў мікрараён "Тэхнапрыбор" можна патрапіць двума шляхамі: першым - абагнуць круг праз прамысловую зону ў тры кіламетры, другім - па вузкаму пешаходнаму масту, дзе таксама неабходна дасттаткова доўга пешкам дабірацца да мікрараёна.

"У першым і другім варыянце ходзіць толькі адзін маршрут аўтобуса. Будаўніцтва маста, якое бы злучыла мікраараён "Тэхнапрыбор" з горадам вырашыла бы гэту нязручнасць", - гаворыць Алесь Паплыка.

Акрамя гэтага актывіст адзначае, што людзі з вялікай ахвотаю ставяць свае подпісы за вырашэнне гэтай мясцовай праблемы.

"Мінімум 80% жыхароў, да якіх мы звярталіся з просьбай падтрымаць наш зварот да мясцовай улады, ставяць свае подпісы пад гэтай ініцыятывай. Шмат людзей незадавальные нерашэнне гэтай праблемы. Я сам зараз жыву ў гэтым раёне і на сабе адчуваю ўсю гэтую нязручнасць", - адзначае Алесь.

Сабраныя подпісы актывісты збіраюцца выслаць прадстаўнікам гарадской і абласной выканаўчай улады, а таксама дэпутатам мясцовага і абласнога Савета дэпутатаў.

Трэба адзначыць, што ў мікраараёне "Тэхнапрыбор" пражывае больш за 10 тысяч чалавек і спробы вырашаць гэтую праблему шляхам збору подпісаў прадпрымаліся неаднаразова. Апошні афіцыйны адказ ад прадстаўнікоў мясцовай быў такі: будаўніцтва маста пачнецца ў 2014 годдзе.

"Мы не хочам чакаць яшчэ чатыры гады, і таму гэты чарговы збор подпісаў павіннен ссунуць дату будаўніцтва да больш блізкай", - падсумаваў размову Алесь Папыка.

# После сбора подписей ухабистую дорогу "подправили"

**В Могилеве через две недели после сбора подписей активистами кампании "Говори правду" за реконструкцию дороги, ведущей к гаражному товариществу "Химволокно", дорогу "подправили".**

Выполненный "ремонт", хоть и далеко не капитального уровня, все же дает возможность передвигаться транспортным средствам без боязни поломать на этой дороге подвеску. Основные ремонтные меры - снятие верхнего слоя асфальтового покрытия с равномерным выравниванием дороги и засыпание ям на всем ее протяжении.

Следует отметить, что сбор подписей привлек внимание руководства ОАО "Химволокно", и один из руководителей (не представился) даже поинтересовался, куда подписные листы в дальнейшем будут направлены.

Активисты ответили, что собранные подписи будут направлены в Могилевский городской и областной Совет депутатов, в том числе и депутату Сергею Пузевичу, который также является и генеральным директором ОАО "Химволокно".

Напомним, что 2 июня активистами кампании "Говори правду" возле гаражного товарищества "Химволокно" было собрано более 200 подписей.

**Наш Магілёў**

**Незалежнае грамадска - палітычнае выданне Горада**
**Выдавец Андрусь Волкаў, дырэктар Вітольд Няўрыда.**
**Надрукавана на ксераксе ў горадзе Магілёве. Наклад: 299 ас.**
**e-mail: mahilou@tut.by**